Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск




# рэгіянальная газета

22 жніўня 2003 года

№ 34 (435)
Выходзіць па пятніцах

ПАНАС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Не даехалі

АСТРАВЕЦ. У аддзел адукацыі Астравецкага райвыканкома быў накіраваны 31 малады спецыяліст. Своечасова з'явіліся толькі 22. Усе яны працаўладкаваныя, яшчэ дзевяцярых чакаюць. Зрэшты, ў Астравецкім аддзеле адукацыі будуць рады не ўсім: для новых гісторыкаў і географаў цяжка знайсці месца.

Святлана ЦІШКО.

### Пачаставаліся...

МЯДЗЕЛ. Не з добрым прыехаў на малую радзіму ў вёску Нагаўкі жыхар Случчыны. Мала таго, што прывёз з сабой наркатычныя сродкі, дык і прывучыў да зелля маладога жыхара вёскі Дзягілі. Зараз узбуджана крымінальная справа.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Замена картак

МАЛАДЗЕЧНА. Да верасня гэтага года плануецца вывесці з абарачэння пластыкавыя тэлефонныя карткі на 120 хвілін і перавесці таксафоны на універсальныя еўрачыпы аб'ёмам 20, 100, 500, 750 адзінак. Але, як адзначыў начальнік аб'яднанага цэха раённага вузла электрасувязі Леанід Кукрыш, пакуль што дакладнага распараджэння не паступала.

Святлана ЦІШКО.

### Не жнівом адзіным

ВІЛЕЙКА. У суботу, 16 жніўня, адбылося свята вёскі Язні. Яго рэжысёрам і сцэнарыстам стала дырэктар мясцовага Дома культуры Аксана Яневіч. На мерапрыемства былі запрошаны старшыня Вілейскага райвыканкома Яўген Сініла, яго намеснік Генадзь Касцевіч, сваякі цяперашніх язненцаў. Сваю канцэртную праграму прывезлі госці з суседняй вёскі Крывічы Мядзельскага раёна.

Святлана ЦІШКО.

### На рэстаўрацыю

СМАРГОНЬ. Помнік воінам і партызанам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, адпраўлены на рэстаўрацыю ў Мінск. Ён стаяў на брацкай магіле і гадоў 40 не рэстаўраваўся. У сталіцы яго "абцягнуць" меддзю. Да свята горада, 4 кастрычніка, абноўлены знак памяці плануюць вярнуць на месца.

Святлана ЦІШКО.

### Аперацыя «Клопат»

ВАЛОЖЫН. Каля 500 кілаграмаў гуманітарнай дапамогі, атрыманай ад грамадскай арганізацыі "Дапамога і развіцце", размеркавалі ў малазабяспечаныя сем'і работнікі ўпраўлення па працы і сацыяльнай абароне райвыканкома. Акцыя прайшла ў межах аперацыі "Клопат".

Наталля ШТЭЙНЕР.

# Рабочае месца – цягнік

**МАЛАДЗЕЧНА. Сын палкоўніка авіяцыі звычайна марыць таксама стаць вайскоўцам. А куды ідзе вучыцца дзяўчынка, у якой дзядуля, бацька, маці і стрыечны брат працуюць на чыгунцы? Канечне, у чыгуначны каледж.**

Жанна Гулякевіч з дзяцінства хацела быць толькі праваднічай. Мама і суседзі адгаворвалі, раілі ісці ў педагогі ці прадаўцы, у школе не хацелі аддаваць атэстат, калі даведаліся аб планах дзяўчыны. А ёй падабалася форма, сігнальныя сцяжкі, вабіла рамантыка дарогі. Яна дабілася свайго, вырашыўшы: "Калі зраблю няўдалы выбар, буду вінаваціць толькі сябе". Атрымала дыплом "праваднік, білетнага касіра" і тры гады працавала па першай спецыяльнасці, хоць ужо праз год зразумела, што дзіцячыя мары не адпавядалі рэальнасці. Але расчаравання не было – усё ж чыгунка была дзяўчыне па душы. Мужам яе стаў калега: у санаторыі–прафілакторыі для чыгуначнікаў пазнаёмілася з хлопцам, які працаваў машыністам.

Нарадзілася дачушка Аня, і цягнікі сталі адпраўляцца ў дарогу без Жанны. Праз тры гады яна не змагла вярнуцца да работы праваднічай: змянілася яна сама і калектыў супрацоўнікаў, ды і маленькае дзіця надоўга адно не пакінеш. З красавіка 2002 года займае пасаду касіра раз'язнога білетнага – прадае білеты пасажырам у цягніках, што ідуць на Ліду, Гудагай, Крулеўшчыну. Гэта нялёгкая праца. Справа не ў тым, што за рэйс не прысядзеш ні на хвіліну. І нават не ў тым, што, як і ў рабочых, бываюць начныя змены. Часам даводзіцца ў чаканні зваротнага цягніка начаваць у пакоях адпачынку. Ёсць такія ў Гудагаі, Лідзе, Глыбокім. Па водгуках праваднікоў найлепшы – у Лідзе: пакой маленькі, але ўтульны, пасцельная бялізна заўсёды свежая, толькі што душа няма. Тут цяжкасці іншыя. Касір працуе з людзьмі, а яны бываюць розныя. То сядуць не на той цягнік, то праспяць сваю станцыю, а потым абураюцца: маўляў, касір павінен быў разбудзіць. А іх на ўвесь састаў толькі двое. Безумоўна, памяць гэта прафесія трэніруе лепш, чым завучванне вершаў. Жанна памятае назвы ўсіх прыпынкаў па чатырох накірунках. Таксама стараецца запамінаць твары людзей, каб ведаць, хто зайшоў нядаўна, а хто ўжо мае білет. Самыя нязручныя пасажыры – пенсіянеры. Многія з іх лічаць, што заслужылі бясплатны праезд. Можа, яно так і ёсць. Але пакуль няма адпаведнага рашэння Савета Міністраў, касір павінен прадаваць ім ільготныя білеты.

У час працы Жанна Гулякевіч і яе напарніца Марына Арсенцьева стараюцца разлічваць толькі на сябе. Нават калі буянць і лаецца п'яны ці скандаляць, нешта не падзялілі, спадарожнікі. Нарад міліцыі ёсць не ў кожным цягніку. Але жанчыны не палохаюцца. "Нас двое, – гаворыць Жанна. – Гэта ж не адной па саставу ісці". А ўвогуле, яна задаволена сваёй работай: і графікам, і заробкам. Можа, гадоў праз 10, калі падрасце дачка, Жанна паспрабуе зноў стаць праваднічай. А пакуль што абавязкі маці не дазваляюць пакідаць дом на некалькі сутак.

– Для дачкі Ані прафесію пакуль што не выбралі.

Яна зараз у такім узросце, калі хочацца асвоіць усе прафесіі. Прыйдзе час, будзе выбіраць сама.

Святлана ЦІШКО.


Жанна Гулякевіч – білетны раз'язны касір. Яе рабочае месца – цягнік.

Фота Святланы ЦІШКО.

### Прайшоў кірмаш



Ажыўлена было ў мінулую суботу на Цэнтральнай плошчы горада. Тут праходзіў рэгіянальны кірмаш.

3-я старонка

### Хутка ў школу



Лічаныя дні застаюцца да пачатку новага навучальнага года. Большасць бацькоў праводзяць іх у клопатах.

6-7 старонкі

### Крэўская «адысея»



Аб гучнай і нялёгкай мінуўшчыне Крэва маўкліва напамінаюць сёння гарадзішча і пасівелыя ад часу руіны замка.

8-я старонка

# Быў у горадзе кірмаш

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу, 16 жніўня, на Цэнтральнай плошчы горада прайшоў кірмаш.**

Сваю прадукцыю на ім прадставілі прадпрыемствы ўсіх форм уласнасці, бытавога абслугоўвання, перапрацоўчай прамысловасці. Ля прыгожа афармленых палатак стаялі чэргі, нягледзячы на тое, што афіцыйна кірмаш пачаўся ў 10 гадзін, з самай раніцы. Куплялі людзі ў асноўным мясныя прадукты, якіх багата прапанавалі Маладзечанскія мясакамбінат і птушкафабрыка, не абміналі і гандлёвую кропку адкрытага акцыянернага таварыства "Маладзечанскі гармалзавод".

Карысталася попытам прадукцыя калгаса імя Я. Купалы. На кірмаш у горад вяскоўцы прывезлі раннюю бульбу, моркву, буракі.

Дарэчы, шматлюдна было і за дэкаратыўнай аркай, на якой прыгожымі літарамі было выведзена: "ТАА Маладзечнагандаль". Сярод пакупніц – толькі жанчыны, якія, здаецца, сумелі ацаніць якасць прапанаванага ім тавару. Гараджане і госці Маладзечна добра бралі як футболкі, так і бялізну для сябе, а таксама дзяцей, трыкатажныя вырабы. Дарэчы, былі ў асартыменце і тавары для школьнікаў. Хлопчыкам маці прымяралі кашулі, дзяўчатам – прыгожыя сарафаны. Адчувалася, што гандляры да кірмашу падрыхтаваліся. Адусюль і ўзаемавыгада: адным патрэбны тавар – другім неблагая выручка.


Багата тавару прапанаваў на Маладзечанскім кірмашы магазін № 4 "Дары прыроды", а прадаўцы Наталля Сіняўская і Зоя Мандрык ветліва абслугоўвалі пакупнікоў.
Фота Марыны СЛІЖ.

Не падвялі пакупнікоў "Маладзечанскае райспажыўтаварыства", якое наладзіла продаж як прамысловых, так і харчовых тавараў, мясцовы хлебазавод, прадпрыемствы грамадскага харчавання, гандлёвы дом "Алекор", прыватныя прадпрымальнікі, што гандлявалі як цацкамі, так і пісьмовымі прыладамі.

Не абышлося ў той дзень і без абавязковага атрыбуту ўсіх кірмашоў – шашлыкоў, паласавацца якімі не супраць былі як дарослыя, так і дзеці.

Да трох гадзін дня меўся быць кірмаш, ды спорны дождж, што наляцеў на горад, разагнаў пакупнікоў. Праз нейкі час сталі збірацца й гандляры. Толькі не так хутка і спрытна. Нічога дзіўнага, стаміліся. Для многіх з іх рабочы дзень пачаўся ў шэсць, а то і ў пяць гадзін. Так ужо ў жыцці заведзена: у час, калі адны адпачываюць, другім трэба працаваць.

**Марына СЛІЖ.**

# Сярэдзіна лета. Вынікі ліпеня

**Ліпень стаў пераломным месяцам як для кожнага з нас, так і для краіны. Лета не прадказвала на палітычным небасхіле не тое, што буры, а нават і невялікай навальніцы.**

Аднак гром грымнуў – прэзідэнт зняў прэм'ер-міністра краіны і яшчэ некалькі падначаленых яму міністраў, прыгразіў зняць яшчэ трэць застаўшыхся членаў кабінета. Апазіцыя адразу ж паведаміла, што А.Лукашэнка ўмацоўвае вертыкаль сваёй улады перад чакаемым рэферэндумам па прадаўжэнні прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. Той жа, наадварот, абвінаваціў экс-прэм'ера ў мяккасці кіраўніцтва і няздольнасці справіцца з падзеннем узроўню жыцця насельніцтва і нявыплатамі заработнай платы. Пры зачытванні Аляксандрам Лукашэнкам свайго ўказа высветлілася, што прэм'ер ідзе ў адстаўку "на вялікі жаль прэзідэнта". Астатнім членам урада напомнілі, што ў іх паўнамоцтвы ўваходзіць з раніцы да ночы думаць аб народзе, здрада, падман і п'янства не даруюцца. Горкая пілюля для Навіцкага была падсаладжана – яго да верасня абяцалі працаўладкаваць, магчыма, у нейкай ВНУ з'явіўся б новы рэктар. Аднак у канцы ліпеня ён быў выбраны старшынёй Савета рэспублікі Нацыянальнага сходу. Навіцкі стаў чацвёртым кіраўніком урада краіны, якія зняты за 9 гадоў (чарговую гадавіну краіна адзначала ў чацвер, 10 ліпеня) кіраўніцтва А.Лукашэнкі. Прэм'ерам ён быў назначаны ў кастрычніку 2001 года з паста міністра будаўніцтва і архітэктуры.

## Пра грошы

Насельніцтва ў вялікім даверы да банкаў – на дэпазітных разліках да ліпеня накапілася 1033 мільярды беларускіх рублёў і больш за 434 мільёны долараў, у пераліку каля 1 мільярда долараў ЗША. Сума не маленькая, аднак яна сцвярджае аб няўпэўненасці грамадзян у заўтрашнім дні. Яны не трацяць грошы сёння, а берагуць на будучае. Нягледзячы на зніжэнне стаўкі рэфінансавання, за паўгоддзе з 38 да 33% працэнтныя стаўкі па ўкладах насельніцтва пакуль перавышаюць тэмпы інфляцыі. Па тэмпах росту афіцыйнага курса долара за паўгоддзе Беларусь па-ранейшым утрымлівае першае месца сярод краін СНД – курс падняўся на 7,3%, з 1920 да 2060 рублёў за долар, за ліпень ён падскочыў яшчэ на 30 рублёў. Для параўнання, у Латвіі і Расіі долар стаў танней на 4%, у Казахстане – на 5%, у Эстоніі і Літве – на 8%, у Кыргызстане – амаль на 11%. У мэтах умацавання беларускай валюты ўрад усімі сіламі павялічвае экспарт – менавіта з гэтай мэтай да нас у лістападзе прыедзе з афіцыйным візітам туркменбашы ўсіх туркмен прэзідэнт Ніязаў. Як звычайна, пасля ўсялякіх завярэнняў аб сяброўстве гаворка пойдзе аб трактарах, самазвалах і аўтамабілях. Ліпеньскія перагаворы паміж Беларуссю і Расіяй наконт продажу расіянам акцый "Белтрансгазу" зайшлі ў тупік – нашы запрасілі за сваё самае каштоўнае больш за 4 мільярды долараў і частку газаправода Ямал-Еўропа, газпрам жа на такія ўмовы не згадзіўся. Адбыўся прарыў у развіцці прадпрымальніцтва: улады аб'явілі паслабленні ў ліцэнзаванні некаторых відаў дзейнасці – прэзідэнтам у ліпені падпісаны адпаведны указ. Колькасць відаў, якія патрабуюць ліцэнзавання, скарочана са 165 да 49, ліцэнзійны збор не залежыць ад віду і складае 90 еўра, мінімальны тэрмін дзеяння – 5 гадоў. Па раней атрыманых ліцэнзіях можна працаваць да 01.05.04 г.

## Прызыўная кампанія

У ліпеньскай прызыўной кампаніі выявіўся незвычайны момант – тых, хто жадае паслужыць, стала нашмат больш, чым прызваных на тэрміновую службу. У асобных часцях Віцебскай вобласці конкурс склаў 3 чалавекі на месца. Упершыню ў ваенкаматаў з'явілася магчымасць выбіраць сярод прызыўнікоў найбольш дастойных. Наплыў паслужыць у арміі тлумачыцца большай верагоднасцю працаўладкавання пасля службы, асабліва ў міліцыю, у МНС і ахоўныя службы. Гэта сведчыць і аб негатыўным фактары – моладзь не хоча больш ісці, напрыклад, на будаўніцтва, яна аддае перавагу няпыльнай, але дастойнай (і па віду, і па грашах) рабоце ў міліцыі.

Увядзенне побач з беларускім рублём расійскага, абяцанае на 1 ліпеня, адкладзена да кастрычніка — прэзідэнтам не быў падпісаны адпаведны ўказ.

## Пра іншае

- 25 ліпеня дзяржаўны сакратар Саюза Беларусі і Расіі Павел Барадзін выказаўся канкрэтна і проста, што "краінам СНД патрэбны цар". Ён лічыць, што намнога лепш мець цара, бо 4 гады прэзідэнцкага тэрміну – вельмі мала, і яго нядрэнна было б прадоўжыць хаця б да 7 гадоў.
- З Беларусі 17 ліпеня на памежным пераходзе Кузніца-Гродна была дэпартаваная саветнік віцэ-прэм'ера Польшчы Катажына Матушэўская. Яна на працягу 4 год арганізоўвала адукацыйныя семінары для беларускіх дэмакратычных арганізацый.
- На час уборачнай кампаніі ў некаторых месцах былі ўведзены абмежаванні на продаж спіртнога – рэалізацыя спіртных напояў у сельскіх магазінах заканчвалася ў 18 гадзін, каб камбайнеры маглі спакойна адпачыць пасля працоўнага дня.
- Прывакзальная станцыя сталічнага метро "Плошча Незалежнасці" ў ліпені зноў стала аб'яўляцца як "Плошча Леніна".
- З 2004 года ў вышэйшых навучальных установах краіны будзе ўведзена новая дысцыпліна "Асновы ідэалогіі беларускай дзяржавы".
- У ліпені Расія канчаткова аб'явіла аб павышэнні пошлін на іншамаркі для насельніцтва, гэта прывяло да росту цэн на машыны ў сярэднім на 700-1000 долараў.
- Канчаткова перапоўнілася людское цярпенне паведамленнем аб тым, што ў адной з падатковых інспекцый г.Мінска кімсьці былі задэклараваныя гадавыя даходы за мінулы год у суме каля 460 мільёнаў рублёў, адрас уладальніка грошай не ўказваўся.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 14.08 руб. | 21.08 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2082,00 | 2085,00 |
| Еўра | 2341,73 | 2320,19 |
| Злоты | 535,63 | 530,64 |
| Літ | 678,26 | 671,97 |
| Расійскі рубель | 68,52 | 68,78 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2080/2100 | 2080/2100 |

## Маладзечна. Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 13.08 | 20.08 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 12400 | 12620 |
| Сасіскі, 1 кг | 4310 | 4150 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 0,9 кг | 820 | 800 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1400 | 1400 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 850 |
| Алей, 1 л | 1700 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 500 | 450 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 900 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | 800 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 900 | 900 |
| Капуста, 1 кг | 400 | 300 |
| Морква, 1 кг | 700 | 600 |
| Лімоны, 1 кг | 2000 | 1900 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 1950 |
| Памідоры, 1 кг | 880 | 900 |
| Агуркі, 1 кг | 500 | 450 |
| Кавуны, 1 кг | 500 | 500 |
| Яблыкі, 1 кг | 950 | 1300 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 650 |
| Смятана, 1 л | 1800 | 1800 |
| Масла, 1 кг | 4400 | 4600 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 1300 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1700 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 4000 | 3200 |
| Яблыкі, 1 кг | | 1000 |
| Маліны, 5-літр. вядро | 7000 | 7000 |
| Чарніцы, 5-літр. вядро | 8000 | 6000 |
| Алыча, 5-літр. вядро | 3000 | 3500 |
| Слівы, 5-літр. вядро | 6000 | 8000 |
| Шыпшына, 5-літр. вядро | 3000 | 2500 |

■ ПАМЯЦЬ

# Сорамна за людзей...

**ВАЛОЖЫН. Некалькі тыдняў таму невядомыя вандалы пашкодзілі на гарадскіх могілках помнік журналісту і проста добраму чалавеку Барысу Сачанку.**



На Валожынскіх могілках невядомыя вандалы пашкодзілі помнік журналісту Барысу Сачанку. Ад некалі прыгожай надмагільнай пліты засталіся толькі ўспаміны.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Пятнаццаць гадоў мінула з таго дня, як пайшоў на той свет мой бацька. Затым не стала бабулі Ані. Разумнай, мудрай жанчыны, на казках якой вырасла не толькі я, але і мае дзеці. Успамінаючы дарагіх сэрцу людзей, ніколі не мінаю выпадку паставіць свечку за ўпакой душы яшчэ аднаго чалавека – свайго былога калегі Барыса Сачанкі, з якім доўгі час працавала побач у Валожынскай раённай газеце "Працоўная слава".

Барыс быў з катэгорыі людзей, пра якіх звычайна гавораць адным ёмкім беларускім словам — "дабрак". Яму можна было даверыць сваю тайну, расказаць пра непрыемнасці, хваробы дзяцей. Слухаў, звычайна, моўчкі. Бывала, нават нічога не казаў у адказ, хіба кароткае "прарвёмся", а назаўтра заходзіў у твой кабінет, ставіў на стол бутэлечку з лекамі, якую ты яшчэ ўчора нідзе не магла купіць, ці шаптаў на вуха, што твая праблема ўжо не праблема. Ён любіў і ўмеў дапамагаць людзям. Прычым, неяк непрыкметна, нічога не патрабуючы ўзамен. Быццам бы адчуваў свой кароткі век і стараўся пакінуць пасля сябе добрую памяць.

Яго любілі гараджане, суседзі, людзі, з якімі даводзілася разам працаваць, і ўсе без выключэння дзеці. Не міналі выпадку, каб не зазірнуць у кабінет да дзядзі Боры і мае хлопцы. Ён заўсёды памятаў, у які клас ходзіць Максім, як завуць выхавальніцу Паўла. А пасля, узяўшы за руку, вёў малога ў буфет мясцовай вайсковай часці, па салдацкія цукеркі. Якія ж яны былі смачныя!

У апошні год жыцця Барыс часта гаварыў пра смерць. Успамінаў свой родны кут, а родам ён быў з Хойніцкага раёна, хату, у якой нарадзіўся, пакойніка бацьку, маміны бліны, якія называў "наліснікі". Ён мог гадзінамі расказваць пра службу на флоце і з гонарам зазначаў, што двойчы давялося перасякаць экватар, а яшчэ пра тое, як вёз з радзільнага дома свайго першынца-сына.

У той год ён ніяк не мог выбрацца ў адпачынак. Не адпускалі рэдакцыйныя справы. Здаў свой пост адказнага сакратара газеты "Працоўная слава" толькі 30 кастрычніка 2000 года. Гэты дзень і стаў апошнім у яго жыцці. Барыс памёр у сваёй кватэры, седзячы ў крэсле ля тэлевізара. Закрыўся, як канстатавалі медыкі, сардэчны клапан.

Хавалі яго на каталіцкае свята Усіх Святых. За трунай, у вялікай журбе, ішоў амаль што ўвесь горад. Правесці добрага чалавека ў апошні шлях папрыязджалі старшыні мясцовых калгасаў, кіраўнікі арганізацый і прадпрыемстваў, тыя, пра якіх ён некалі пісаў. Людзі глядзелі на яго надзвычай спакойны твар, лёгкую ўсмешку на вуснах і не верылі, што гэтага няўрымслівага, жыццялюбівага чалавека больш ніколі не будзе.

Смерць Барыса падкасіла не толькі блізкіх. Мы, яго калегі, таксама доўга не маглі паверыць, што Сачанкі больш няма. І цяпер, хутка тры гады з дня яго смерці, у рэдакцыі, дзе ён працаваў, ёсць Барысаў стол, Барысаў камп'ютэр, Барысавы здымкі. Толькі "водпуск" яго зацягнуўся навечна...

З нядаўняга часу не працую ў "Працоўнай славе" і я. Па сямейных абставінах сям'я пераехала ў Маладзечна. Але часцінка душы ўсё яшчэ застаецца там, у Валожыне, сярод знаёмых і калег, якім часта тэлефаную. З болем і горыччу расказалі яны пра факт вандалізму на гарадскіх могілках. Як калегі, так і гараджане не могуць зразумець, хто падняў руку на помнік Барыса. Каму прыйшло ў галаву ўчыніць здзек над памяццю аб чалавеку, якога любілі і паважалі не толькі ў горадзе, дзе ён жыў.

Быў Барыс Сачанка і сябрам "Рэгіянальнай газеты". Дзяліўся з яе супрацоўнікамі інфармацыяй, падказваў журналістам, калі тыя прыязджалі ў камандзіроўкі ў Валожын, тэмы для матэрыялаў. Калі быў у Маладзечне, заходзіў павітацца з калегамі. У тыя журботныя дні газета надрукавала некралог, у якім расказала ўсяму рэгіёну пра добрага чалавека, які пражыў на зямлі ўсяго сорак з невялікім гадоў. Не можа маўчаць і сёння, калі чыясьці злая рука паднялася над помнікам Барысу Сачанку. Нам сорамна за гэтых людзей...

Марына СЛІЖ.

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Новы фармат БТ

**Многія нашы суайчыннікі адзначаюць, што якасць перадач на Беларускім тэлебачанні палепшылася. Ці гэта канкурэнцыя з боку АНТ адыграла сваю ролю, ці проста на БТ прыйшлі новыя людзі, невядома. Трэба меркаваць, што і першае, і другое мае месца. Але факт застаецца фактам: калі адкінуць праграму «Пастскрыптум+» і псеўдадакументальныя фільмы айчыннай вытворчасці, то інфармацыйны прадукт прыдатны да спажывання.**

Маляўнічую карціну росквіту беларускіх электронных СМІ азмрочвае толькі адна непрыемная тэндэнцыя — імклівае абрусенне. Хай АНТ з моманту свайго існавання вяшчаў па-руску. Але ж і БТ пераходзіць на другую дзяржаўную мову. А пачалося ўсё, здаецца, са спартыўных навінаў. Калі Уладзімір Навіцкі добра валодае абедзвюма мовамі і разбіраецца ў спорце, то ў Паўла Булацкага, акрамя абаяльнай усмешкі, ёсць толькі памылкі ў вымаўленні і ўтварэнні граматычных формаў. Ганна Эйсмант гаварыла па-беларуску добра, але надоўга. У адзін «цудоўны» вечар пра спорт пачалі гаварыць на рускай мове.

Гэтыя змены адбыліся літаральна за 2-3 веснавыя месяцы. Калі вернуцца дадому студэнты будатрадаў, якіх урачыста выправілі на заробкі, то могуць не пазнаць нацыянальнае тэлебачанне. Але хутчэй за ўсё нічога не заўважаць: нямногія з іх глядзяць навіны.

Нельга сказаць, што якасць інфармацыйнай прадукцыі пагоршылася ці стала менш зразумелай ад змены мовы. Але, як казаў спадар Верашчагін з фільма «Белае сонца пустыні»: «Мне за дзяржаву крыўдна».

Святлана ЦІШКО.

## Горкі мёд

У рэдакцыю прыйшоў ліст ад Марыі Андрэевай: «Зараз я ляжу дома пасля аперацыі. Трэба добрае харчаванне, вітаміны. І вось на парозе маёй кватэры з'яўляецца незнаёмы малады чалавек і прапануе танную муку, цукар і трохлітровы слоік мёду. Даўно хацела купіць сабе мёду на лекі, і тут такі ўдалы выпадак. На рынку за маленькі слоічак просяць 4500 рублёў, а тут трохлітровы слоік аддаюць за 25000. У прадаўца іх было два — выбірай, які хочаш. Даў паспрабаваць — здаецца, добры. Купіла. На наступны дзень стала даследаваць сваю пакупку. Зверху наліты мёд, а ўнутры — адзін цукар. Крыўдна мне стала за сябе.»

Марыя Андрэева паверыла маладому чалавеку, хоць і ведала, што могуць падмануць. Трапіла на вудачку прадаўца-злодзея толькі таму, што здароўе было слабае. «Чаму вакол адзін падман? Чаму ў нас развялося столькі махляроў? Няўжо яны нажывуцца на чужых слязах?» — пытаецца наша чытачка. І хоча папярэдзіць усіх, каб не звязваліся з падобнымі «дабрадзеямі».

# «Бермудскі трохкутнік»

**ВІЛЕЙКА. Ведаеце, ёсць такія месцы, у якіх чалавек паводзіць сябе неяк незвычайна: губляе прытомнасць, засынае ці ўвогуле бясследна знікае. Вучоныя растлумачваюць гэта па-рознаму: тэктанічныя разломы, змена магнітных палёў Зямлі, касмічнае ўздзеянне.**

Дык вось, я ведаю адзін такі "бермудскі трохкутнік". Ён знаходзіцца пад маім акном, дакладней, пад лавачкай, што пад маім акном. Дзіўна, але ўжо не раз бачыла там людзей, якія спалі. Назіраючы за гэтым феноменам, я заўважыла, што часцей за ўсё пад уздзеянне невядомай мне з'явы трапляюць мужчыны, якім за 30. Але бываюць і выключэнні: засынаюць там і жанчыны, і хлопцы.

Я правяла невялікае расследаванне і выявіла, што людзі трапляюць у фазу санлівасці не непасрэдна пад лавачкай, а задоўга да яе. Спачатку я меркавала, што яны засынаюць пад уздзеяннем нейкіх асаблівых сонечных промняў. Але пабачыўшы чалавека, які спаў дажджлівай восенню, зразумела, што прычына ў іншым. У асноўным аб'екты майго даследавання праводзяць некаторы час за нейкімі святкаваннямі: дні нараджэння, вяселлі, наваселлі і гэтак далей. А глыбокі разгляд дадзенага факту прывёў мяне да высновы, што далейшыя дзіўныя паводзіны людзей пачынаюць праяўляцца яшчэ за сталом. Значыць, нейкія прадукты ўплываюць на такі стан. Але той факт, што далёка не ўсе людзі, якія пайшлі з застолля і якія пакаштавалі ўсе стравы і напоі, трапляюць пад лавачку, прымусіў мяне адмовіцца ад ранейшых думак.

Нехта мне сказаў, што гэта з-за чалавечай дурноты. Але я не паверыла. Няўжо людзі такія дурныя? Вось і даводзіцца цяпер гадаць, што адбываецца з людзьмі. І чаму у "бермудскі трохкутнік" трапляе ўсё больш і больш Homo Sapiens.

Можа, вы падкажаце?

Яўгенія МАНЦЭВІЧ.



Нярэдка можна ўбачыць такое на нашых вуліцах. Як і чаму людзі трапляюць у падобныя сітуацыі? Пытанне застаецца адкрытым.

Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

# Я ў ранец пакладу

**Да новага навучальнага года застаюцца лічаныя дні. Самы час збіраць ранцы.**

Абавязковым атрыбутам школьніка гандлююць у горадзе лічы што ўсе магазіны. Кошт ранцаў розны: ад 14 да 25 тысяч, а вось фасон – амаль што аднолькавы. Адрозніваюцца хіба што колерам ды колькасцю схаваных за замочкамі кішэнек. Пачаткоўцам яны падабаюцца. А вось дзеці старэйшага школьнага ўзросту пры адным поглядзе на такія ранцы моршчаць насы. Ім бы партфелі ці сумкі, падобныя на дарожныя, на адно плячо. На жаль, айчынныя вытворцы пра такія не паклапаціліся. І многія пакупнікі “перакачавалі” з магазінаў на рынак. Не скажаш, што і там асартымент невядома які. Усё тыя ж ранцы, праўда, як кажуць дзеці, больш крутыя. З мноствам завязак, шнуркоў, кішэнек з нейлону. Каштуюць зноў жа у межах ад 14 да 20 тысяч. Ёсць і навінка сезона – рукзак, які прадаўцы называюць модным словам “банан”. Ён даражэйшы, 24-26 тысяч рублёў. Мае трохвугольную форму, носіцца, як і хочацца дзецям, цераз плячо. Наконт прыгажосці разважаць не буду. Густ у кожнага свой. А вось пра тое, што не зручны, магу казаць смела. У такім бы ракеткі для бадмінтона насіць, а не сшыткі.

Дарэчы, самы час, калі складаеш рукзак, успомніць менавіта пра іх і сказаць, што кошт на гэты тавар як на рынку, так і ў магазінах трымаецца ў адных межах: 90-180 рублёў. Самыя танныя сшыткі ў просценькіх, папяровых абгортках. Тыя, што каштуюць 140-180 рублёў, маюць гладкую каляровую паверхню і глядзяцца куды багацей і прыгажэй. А вось папера як у адных, так і ў другіх амаль аднолькавая. Так што, глядзіце самі, выбірайце самі. А я пачну камплектаваць школьны пенал.

За самы танны, які ўдалося адшукаць на рынку, прасілі 3 тысячы рублёў. Побач ляжалі коштам 4600, 7900, 8300 і вышэй. Усе яны, зазначу, былі ўнутры пустыя. Таму, пакладзём у іх просты карандаш, ён абыдзецца нам у 150-250 рублёў, гумку – 200-300, лінейку – 300-500, ручку 250-1100 рублёў. Напомню, што ёсць у гэтым пенале яшчэ й кішэнькі для алоўкаў, якія (12 штук) каштуюць у межах 2-3 тысяч, фламастэры – 2400-2600. Мамам і татам пачаткоўцаў давядзецца набыць пластылін – 1950 рублёў, каляровую паперу — 500-600, клей — 300-500 рублёў. А старшакласнікам не абысціся без “тоўстых” агульных сшыткаў. На 96 лістоў я не знайшла. За тыя ж, што маюць 48, просяць у межах 500-600 рублёў. Усе без выключэння прыгожыя, самі, як кажуць, просяцца ў рукі.

Ну і, на заканчэнне, пра дзённікі. На рынку для вучняў 4-11 класаў яны каштуюць 1500 рублёў. У магазіне побач – 1200. А самыя танныя дзённікі як для пачаткоўцаў, так і старшакласнікаў бачыла ў гандлёвым доме “Вега”. Дарэчы, не дарагія там і абгорткі для сшыткаў, а вось з тымі, што звычайна “адзяваюць” на кнігі, пакуль што не сустрэлася.

Дарэчы, за кніжкі, як і кожны год, таксама давядзецца ўносіць бацькоўскую плату. Колькі будуць каштаваць падручнікі, чытайце ў табліцы.

**Марына СЛІЖ.**



Маладзечанка Оля Сарока збіраецца ў школу. Фота Марыны СЛІЖ.

### Кошт камплекта падручнікаў

| | | поўны кошт камплекта, руб. | аплата за карыстанне, руб. |
|---|---|---|---|
| **Школа з беларускай мовай навучання** | | | |
| Па праграме 12-гадовай школы | падрыхт. кл. | 7572 | 3785 |
| | 1 клас | 9063 | 4530 |
| | 2 клас | 4770 | 2385 |
| | 3 клас | 8608 | 4305 |
| | 4 клас | 19658 | 9830 |
| | 5 клас | 36741 | 18370 |
| | 6 клас | 12709 | 6355 |
| Па праграме 11-гадовай школы | 6 клас | 11235 | 5620 |
| | 7 клас | 12838 | 6420 |
| | 8 клас | 17353 | 8675 |
| | 9 клас | 19641 | 9820 |
| | 10 клас | 20112 | 10055 |
| | 11 (12) клас | 19230 | 9615 |
| **Школа з рускай мовай навучання** | | | |
| Па праграме 12-гадовай школы | падрыхт. кл. | 7572 | 3785 |
| | 1 клас | 10064 | 5030 |
| | 2 клас | 5660 | 2830 |
| | 3 клас | 10000 | 5000 |
| | 4 клас | 19658 | 9830 |
| | 5 клас | 36741 | 18370 |
| | 6 клас | 12709 | 6355 |
| Па праграме 11-гадовай школы | 6 клас | 11235 | 5620 |
| | 7 клас | 12838 | 6420 |
| | 8 клас | 17355 | 8675 |
| | 9 клас | 19641 | 9820 |
| | 10 клас | 20057 | 10030 |
| | 11 (12) клас | 19230 | 9615 |

## Справы ладзяцца

**МАЛАДЗЕЧНА. Сумна паглядаючы на календары, дзеці цяжка ўздыхаюць: хутка ў школу! І не ведаюць, што для іх настаўнікаў новы навучальны год пачаўся яшчэ некалькі тыдняў таму.**

Не стала выключэннем і Маладзечанская беларуская гімназія, дзе дзякуючы калектыву навучальнай установы класныя пакоі, кабінеты, сталовая, спартыўная і актавая залы гатовы былі прыняць сваіх наведвальнікаў ужо 12 жніўня.

Рамонт у многіх памяшканнях зрабілі самі дзеці: на базе гімназіі быў арганізаваны лагер працы і адпачынку. За сродкі рэгіянальнага цэнтра занятасці насельніцтва праведзены капітальны рамонт двух спартыўных залаў, раздзявалак, душавых пакояў, заменены ў чатырох класах шпалеры.

Дарэчы, пах свежай фарбы дзякуючы бацькам гімназістаў, якія выдзелілі са свайго сямейнага бюджэту грошы на рамонт, адчуваецца ва ўсіх класных памяшканнях. У ліку спонсараў і калектыў упраўлення буравых работ трэста “Белтрансгаз”, якім кіруе Генадзь Лук'янаў. Сувязі гэтага калектыву з Беларускай гімназіяй доўжацца тры гады, і не было выпадку, каб вышэй названая арганізацыя не падтрымала сваіх падшэфных.

Да ліку важных работ адносяць у навучальнай установе і рэканструкцыю школьных гардэробаў, якой займаюцца рабочыя будаўнічага ўпраўлення № 198, не без гонару гавораць і пра абноўленую мэблю. Па словах дырэктара гімназіі Аляксандра Бурдыкі, да навучальнага года яе замянілі ў васьмі кабінетах, на што выдаткавана сем мільёнаў рублёў.

Але не толькі падрыхтоўкай да новага навучальнага года жыве ў гэтыя дні гімназія. Настаўнікі і вучні рыхтуюцца да сустрэчы сваіх партнёраў з Германіі, якія прыедуць у Маладзечна 14 верасня і прабудуць два тыдні. Гасцям плануюць паказаць не толькі гімназію і родны горад, але і звазіць на экскурсію ў Мінск, Хатынь, Віцебск, Заслаўе. Госці з гімназіі “Шэльцтор”, што ў горадзе Эслінген, прабудуць ў нашым горадзе два тыдні, а жыць будуць у сем'ях сваіх беларускіх равеснікаў.

**Марына СЛІЖ.**

■ **ДА АДЗІНАГА ДНЯ БЯСПЕКІ ДАРОЖНАГА РУХУ**

# Увага! Дзеці ідуць у школу

**У нашай краіне штогод адбываецца 8000 аўтааварый, штодзень на дарогах гіне ў сярэднім 4-5 чалавек і каля 20 атрымліваюць траўмы.**

Гэта сумная статыстыка выклікае пачуццё горычы і жалю. Але яшчэ больш страшна, калі ў выніку няшчасных выпадкаў гінуць дзеці. Таму сёння востра стаіць праблема прафілактыкі і папярэджвання дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму.

У выхаванні дзяцей няма дробязей. Усё, што засвоена ў раннім дзяцінстве, потым становіцца звычкай. Добрай ці шкоднай – залежыць ад тых, хто працуе з дзецьмі, займаецца іх выхаваннем.

Прычыны дарожна-транспартнага траўматызму ў старэйшых школьнікаў часцей за ўсё хаваюцца ў недысцыплінаванасці, а ў малодшых — у нявопытнасці.

На працягу 7 месяцаў на дарогах Мінскай вобласці адбылося 665 ДТЗ, у якіх 196 чалавек загінулі і 694 атрымалі раненні. Летась за такі ж перыяд зарэгістравана 621 здарэнне, загінулі і атрымалі раненні адпаведна 181, 643 чалавекі.

Сёлета за 7 з паловай месяцаў на дарогах Мінскай вобласці ў 80-і ДТЗ з удзелам дзяцей загінулі 11 і паранена 76 дзяцей. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года колькасць такіх здарэнняў скарацілася на 3 выпадкі, менш і параненых, але затое загінула на 2 дзіцяці больш.

Найбольш неспрыяльная абстаноўка з дзіцячай аварыйнасцю назіраецца ў Мінскім (14), Маладзечанскім (8), Смалявіцкім (5) раёнах, у г.Барысаве (4).

З 80 зарэгістраваных ДТЗ з удзелам дзяцей у 32 выпадках вінаватыя самі дзеці, што складае 15,8% ад агульнай колькасці. У 31 ДТЗ (72,2%) дзеці былі пасажырамі аўтатранспарту.

Асноўнымі прычынамі дарожных здарэнняў па віне дзяцей з'яўляюцца: пераход праезнай часткі (23, ці 9,5%), парушэнні веласіпедыстаў (5, ці 64%), дзеці-вадзіцелі (4, ці 33,3%).

Расследаванне дарожных здарэнняў паказвае, што ў большасці выпадкаў у аўтааварыі дзеці трапляюць з-за слабага ведання элементарных Правілаў дарожнага руху, з-за сваёй недысцыплінаванасці, няўважлівасці і неасцярожнасці, а таксама з-за адсутнасці належнага кантролю за іх паводзінамі з боку бацькоў і педагогаў. Дзеці не разумеюць той небяспекі, якую тоіць у сабе аўтадарога, яна цягне іх, як магнітам.

Напрыклад, у Вілейскім раёне 4-гадовы веласіпедыст быў збіты матацыклістам, вучнем 11 класа. Дзіця атрымала вельмі сур'ёзныя траўмы.

### Паважаныя бацькі!

Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці звяртае вашу ўвагу на вашых жа дзяцей. Не пакідайце іх без прыгляду. Хавайце ад іх ключы ад матацыклаў і аўтамабіляў. Яшчэ раз пагутарыце з імі на тэму дарожнай бяспекі. Уласным прыкладам, выконваючы элементарныя правілы паводзін на дарозе, паказвайце дзецям, што значыць быць дысцыплінаваным і культурным чалавекам. Вучыце іх паважаць іншых удзельнікаў руху.

### Паважаныя вадзіцелі!

Будзьце ўважлівыя і дысцыплінаваныя. Не будзьце ліхачамі і не садзіцеся п'яныя за руль. У цёмны час сутак, ва ўмовах недастатковай бачнасці (дождж, туман) павінны быць уключаны фары блізкага ці далёкага асвятлення. Пры раз'ездзе на адлегласці 150 м да сустрэчнага транспарту своечасова пераключайце далёкае святло фар на блізкае, бо з-за асляплення вадзіцеляў магчымы наезд на пешаходаў, якія ідуць па краі праезнай часткі.

Пры асляпленні вадзіцель павінны ўключыць аварыйную святлавую сігналізацыю, знізіць хуткасць і спыніцца.

Неабходна памятаць і пра туман у нізкіх месцах, каб пазбегнуць з'езду ў кювет і перакульвання.

**ДЗЯРЖАЎТАІНСПЕКЦЫЯ.**

■ ХУТКА Ў ШКОЛУ

# Форма вяртаецца ў школу



На першай прымерцы школьнай формы.

**МАЛАДЗЕЧНА. Кажуць, што новае, гэта добра забытае старое. Некаторыя навучальныя ўстановы зноў вяртаюцца да школьнай формы.**

У ліку першапраходцаў і Беларуская гімназія, а таксама сярэдняя агульнаадукацыйная школа мастацтваў. З гэтага навучальнага года яны ўводзяць форму для вучняў пачатковых класаў. Шыюць яе спецыялісты унітарнага прадпрыемства "Аксаміт-М". Прычым, у кожнай навучальнай установе яна будзе свайго колеру і фасону.

Хлопчыкі, што будуць атрымліваць веды ў Беларускай гімназіі, апрануцца ў бэзавыя пінжакі, такога ж колеру камізэлькі і чорныя штаны. Аналагічная каляровая гама прысутнічае і ў адзенні дзяўчынак. Толькі касцюмы іх складаюцца з чатырох прадметаў. На занятку можна будзе хадзіць як у штанах, так і ў спадніцах.

Пачаткоўцам са школы мастацтваў заказалі форму зялёнага колеру. Дарэчы, распрацоўвалі яе і зацвярджалі не адзін дзень. Настаўнікам, бацькам, дзецям хацелася, каб адзенне было не проста прыгожым, але яшчэ і зручным, практычным.

"Як адной, так і другой навучальнай установе, — расказвае канструктар Алена Асіповіч, — мы прапанавалі некалькі мадэляў школьнай формы. Пасля яшчэ доўга падбіралі тканіну. Бо што ні чалавек, то свой густ. Адным падабаўся колер, не падабалася якасць, іншым – наадварот".

У гэтыя дні на прадпрыемстве самы напружаны час. Трэба паспець закончыць папярэднія заказы і апрануць да новага навучальнага года тых дзяўчынак і хлопчыкаў, чые бацькі, так бы мовіць, адцягнулі свой візіт у "Аксаміт-М" на апошнія дні. Тым не менш, мяркуюць справіцца. І ўжо на наступным тыдні пачаць рэалізацыю касцюмаў цераз свой магазін. Убранне для хлопчыкаў будзе каштаваць крыху больш за 60 тысяч, дзяўчынак – даражэй. Не скажаш, што танна. Але большасць бацькоў аванс за заказ паспела ўнесці яшчэ ў канцы навучальнага года, таму сёння спалохана за кашалькі не хапаецца.

Людзі па-рознаму адносяцца да школьнай формы. Адны лічаць, што, апрануўшы такі ж як ва ўсіх пінжак, дзіця губляе сваю індывідуальнасць, другія – што сабраць у школу сына альбо дачку, купіўшы ім рэчы на рынку, было б куды танней. Не бяруся спрачацца ні з аднымі, ні з другімі. Проста хачу параіць: успомніце свае школьныя гады і дзень, калі цесна было на вуліцах горада ад дзяўчынак і хлопчыкаў у школьных формах з вялікімі букетамі кветак у руках. Кожны, хто ні сустракаў іх на сваім шляху, ведаў, сёння – 1 верасня. І нікому, чамусьці, не было сорамна: ні за сваю карычневую сукенку, ні за белы фартушок. У школу ж ішлі за ведамі, а не на конкурс моднага адзення, дзе кожны павінен праявіць сваю індывідуальнасць.

**Марына СЛІЖ.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Ці патрэбна школьная форма?



**Насця Жаўняровіч, школьніца:**

— Патрэбна. Мама на базары купіць мне штаны, спадніцу і пінжак. Падабаецца і даўнейшая матуліна школьная форма з белым і чорным фартушкамі. Але лічу, што ў джынсавых штанах і куртцы зручней за ўсё хадзіць на заняткі.



**Сяргей Нікіценкаў, педагог:**

— Не. Гэта знішчае індывідуальнасць вучняў. Але не значыць, што ў школу можна пайсці ў чым хочаш. Штаны, рубашка, спадніца ніжэй калена — падыходзяць.



**Алена Сялюн, прадавец:**

— Так. Трэба, каб было відаць, што гэта школьнік. Да таго ж бачна ці на ўроках ён сядзіць, ці па вуліцы бадзяецца. Найлепш хлопчыкам і дзяўчынкам надзяваць касцюм-тройку.



**Максім Ляшковіч, вучань:**

— Не трэба. Хаця я і не супраць. Усе будуць аднолькавыя. Няма магчымасці для самавыяўлення. Канечне, у школу ў спартыўным касцюме хадзіць нельга. Але, калі дзяўчынка апранута ў майку на шлейках, хлопчык – у класічныя джынсы, нармальна.



**Ірына Літаш, настаўніца:**

— Трэба. Добра, калі ў кожнай школы будзе свая форма. Навакольныя хутка прывыкнуць да гэтага і на адлегласці пазнаюць, з якой школы вучань. А для многіх бацькоў больш выгадна патраціць грошы на яе, чым на шматлікія ўбранні.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ ІДУЦЬ КАНІКУЛЫ

## Не толькі праца

**ВАЛОЖЫН. З сярэдзіны жніўня на базе Каменскай, Івянецкай, Ракаўскай, Падбярэзскай сярэдніх школ, а таксама Брылькоўскай базавай школы-сада працуюць лагеры працы і адпачынку. Адкрыты яны за кошт дадатковых пуцёвак на аздараўленне, якіх атрымаў раён 110 штук.**

Усе летнікі з дзённым знаходжаннем, а дзяўчынкі і хлопчыкі, што іх наведваюць, не толькі адпачываюць, але й працуюць. Задзейнічаны дзеці ў асноўным на зернетаках, дзе ў гэты час так патрэбны рабочыя рукі, школьных агародах. Работа не ў цяжар ім, бо хапае часу яшчэ й на адпачынак.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ РЭФОРМА

## Школ стане менш

**Да 2010 года ў сувязі са змяншэннем колькасці вучняў будзе праводзіцца рэарганізацыя школ Мінскай вобласці.**

Плануюць зачыніць у Вілейскім раёне 3 пачатковыя, 6 базавых, 4 сярэдніх школы. У Валожынскім і Маладзечанскім – адпаведна 4 і 2 пачатковыя, па 4 базавыя, на Мядзельшчыне — 4 базавыя і 1 сярэднюю. Праблем з уладкаваннем вучняў і педагогаў хутчэй за ўсё не ўзнікне. Напрыклад, навучэнцы Мядзельскай СШ №3 будуць хадзіць у СШ №1 і 2, а для падвозу вясковых школьнікаў ужо закупілі новы аўтобус. Большая частка настаўнікаў некамплектных школ ужо дасягнула пенсійнага ўзросту. Астатнія абяцаюць працаўладкаваць.

**Святлана ЦІШКО.**

■ З КАНФЕРЭНЦЫІ

## Раіліся педагогі

**МАЛАДЗЕЧНА. Абласная педагагічная канферэнцыя, на якой прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх раёнаў, прайшла на мінулым тыдні ў мясцовым Палацы культуры.**

Першай узяла слова Таіса Данілевіч — начальнік упраўлення адукацыі Мінаблвыканкома. Нягледзячы на тое, што выступленне было доўгае, усе слухалі ўважліва. І нядзіўна – на канферэнцыі не толькі падводзіліся вынікі мінулага навучальнага года, але вызначаліся накірункі працы на будучы.

Размова ішла пра дзіцячыя дашкольныя ўстановы і стан здароўя дзяцей, пра спецыяльную, прафесійна-тэхнічную адукацыю і яе праблемы. Зазначана, што ў новым навучальным годзе асаблівая ўвага будзе надавацца выхаваўчай рабоце: ідэалагічнаму выхаванню, зместу шостага дня школьнага тыдня, пазашкольнай занятасці школьнікаў. Таіса Данілевіч таксама зазначыла, што звесткі «прапануюцца прысутным у якасці інфармацыі для разважання, а не як рэцэпт ці жорсткая ўстаноўка». Але можна з упэўненасцю сказаць, што арганізацыя пошукавай працы, сустрэч з ветэранамі, воінамі-інтэрнацыяналістамі, абаронна-спартыўных лагераў стане самым папулярным і перспектыўным накірункам. Бо менавіта гэтыя віды пазашкольнай працы былі названы ў дакладзе.

Намеснік міністра адукацыі Казімір Фарыно ў сваім выступленні сярод іншага адзначыў, што ў гэтым навучальным годзе плануецца распачаць маніторынг якасці агульнай сярэдняй адукацыі з мэтай атрымання аб'ектыўнай інфармацыі аб узроўні падрыхтоўкі выпускнікоў. Маніторынг, калі хто не ведае, – гэта збор інфармацыі. У нашым выпадку аб тым, наколькі глыбокія веды маюць выпускнікі пачатковай, базавай і сярэдняй школ. Будзе праводзіцца таксама анкетаванне настаўнікаў, намеснікаў дырэктараў, дырэктараў. Прааналізаваўшы іх адказы, Міністэрства выпрацуе рэкамендацыі для метадычных службаў па ўдасканаленні падручнікаў і вучэбна-метадычных дапаможнікаў.

Самым балючым для школ вобласці па-ранейшым застаецца пытанне грошай. У Міністэрстве абяцаюць прымаць меры для павелічэння фінансавання і ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы навучальных устаноў. Але і самім установам, каб трымацца на плыву, давядзецца пастарацца, у прыватнасці актывізаваць пазабюджэтную дзейнасць.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ПРАФТЭХАДУКАЦЫЯ

## Камп'ютэраў нягуста

**Паводле даклада начальніка ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкома Таісы Данілевіч, не ўсе, але многія ПТВ вобласці сёння забяспечаны камп'ютэрамі. Маецца на ўвазе тэхніка не для бухгалтарска-сакратарскай работы, а для навучання моладзі.**

Так, у Вілейскіх ПТВ-48, ПТВ-200 і Валожынскім ПТВ-208 няма ніякіх ЭВМ, у Маладзечанскім ПТВ-135 — Pentium, але толькі 1. Валожынскія навучэнцы ходзяць у камп'ютэрны клас адной з сярэдніх школ горада. Маладзечанцам толькі паказваюць камп'ютэр і расказваюць, як з ім працуюць. Больш грунтоўную падрыхтоўку праходзяць удзельнікі алімпіяд. Лепш забяспечаны Маладзечанскі будаўнічы прафесійны ліцэй. У ім моладзі даступныя 16 камп'ютэраў 386 і 13 Pentium'аў.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС РЭГІЁНУ

# Крэўская «адысея»

**У нямецкіх хроніках XIII стагоддзя, дзе Крэва ўпершыню ўпамінаецца, яно фігуруе як сталіца Нальшчанскай зямлі, якая знаходзілася на паўночна-заходняй ускраіне сучаснай Беларусі.**

З-за свайго стратэгічнага значэння ў вялікай палітыцы тых часоў Крэва ўжо ў 1258 годзе зведала нашэсце татара-мангольскіх войскаў Бурундуя і валынскага князя Васілька. Пасля ўцёкаў мясцовага князя Даўманта на Пскоўшчыну, які ў міжусобнай барацьбе ў 1263 годзе забіў вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Міндоўга, у 1265 годзе Нальшчаны былі заваяваны навагрудскім князем Войшалкам, і Крэва апынулася ў складзе ВКЛ.

У пачатку XIV стагоддзя Крэва дало сваё імя цэламу ўдзельнаму княству. Назва паселішча хутчэй за ўсё пайшла ад рэчкі Краўлянка, на якой заснавалася. Магчыма, ёсць нейкая сувязь і з назвай племені крывічоў. Узнікаюць асацыяцыі і са словам кроў (суседняе польскае – krew), тым больш, што чаго-чаго, а крывавых разборак там хапала.



Развaліны некалі велічнага крэўскага замка. Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Для абароны ад ворагаў вялікі князь ВКЛ Гедымін збудаваў там крэпасць-замак са сценамі шырынёй 2,5 м і вышынёй да 12 м і каля 1338 года аддаў Крэўскае княства з замкамі свайму сыну Альгерду. Шкада толькі, што шырокі бацькоўскі жэст Гедыміна не стаў прыкладам добрых адносінаў паміж родзічамі для яго ўнука – сына Альгерда Ягайлы. Па загаду Ягайлы ў 1382 годзе ў падзямеллі цэнтральнай вежы крэўскага замка быў задушаны яго асноўны канкурэнт на вялікакняжацкі трон родны дзядзька – сын Гедыміна вялікі князь Кейстут. Але ўладным амбіцыям Ягайлы хутка стане мала ВКЛ, і праз тры гады, 14 жніўня 1385 года, у крэўскім замку ён падпіша акт аб стварэнні дзяржаўнага саюза (уніі) ВКЛ і Кароны Польскай, а таксама аб абавязацельствах перайсці ў каталіцтва і ахрысціць паводле лацінскага абраду ўсіх язычнікаў-ліцоўцаў. За гэта ён атрымаў у жонкі маладзенькую польскую каралеву Ядвігу, а з ёю – і польскую карону ў сакавіку 1386 года пад імем караля Уладзіслава.

Унія (з лацінскай unio – еднасць, аб'яднанне) азначае розныя міжнародныя саюзы, і наўрад ці ёсць у Еўропе яшчэ дзяржава, якая зведала на сабе столькі уній, наступствы якіх адгукаюцца і сёння. І першая з іх была Крэўская. Аб'ектыўнай падставай яе была неабходнасць сумеснай барацьбы абедзвюх дзяржаў супраць нямецкай агрэсіі, што ўрэшце спрыяла разгрому войск Тэўтонскага ордэна ў Грунвальдскай бітве 1410 года. Яе адваротным і трагічным бокам для нашай дзяржавы было тое, што унія адпавядала далёкім планам Польшчы інкарпарыраваць ВКЛ. Метадычна скарыстоўваючы ўнутраныя цяжкасці і знешнія няўдачы ў паходзе ў 1399 годзе Вітаўта супраць татар і паражэнне на р.Ворскле, а таксама няўдачы ў Лівонскай вайне 1558-1583 гадах, палякі вымусяць кіраўнікоў ВКЛ падпісаць у 1401 года Віленска-Радомскую, у 1413 годзе – Гарадзельскую, у 1569 годзе – Люблінскую і ў 1596 годзе – Берасцейскую уніі, у выніку якіх беларуска-літоўская дзяржава страціць не толькі сваю самастойнасць і незалежнасць, старажытнабеларускую дзяржаўную мову, але і магчымасць маліцца па сваіх праваслаўных канонах. Каб зняць напружанне паміж канфесіямі, з'явіцца рэлігійны гібрыд – уніяцтва, калі за праваслаўнай царквой прызнавалася вяршэнства папы рымскага ў абмен на захаванне беларусамі сваіх абрадаў і богаслужэння на роднай мове. Такому вось уніяцкаму (хутчэй, езуіцкаму) марафону дало 618 гадоў назад Крэва, і хто ведае, якая яшчэ унія чакае нас наперадзе?

У 1387 годзе ў Крэве быў заснаваны адзін з першых у ВКЛ касцёл, але малітвы не прынеслі спакою мясцоваму насельніцтву. У 1433 годзе крэўскім замкам жорстка завалодаў сын Альгерда Свідрыгайла, які быў праціўнікам уніі з Польшчай і прэтэндаваў на вялікакняжацкі трон. Як гэта было, летапіс паведамляе: "И приде ко Креву, и стояше 2 дни, взяша Крево мурованны и сожже, людей много посекоша и в полон поведоша". У 1503-1506 гадах замак неаднаразова асаджалі перакопскія татары; у 1519 годзе захапілі войскі маскоўскіх ваяводаў. У крэўскім замку жыў вядомы ў гісторыі рускі князь Андрэй Курбскі. Адзін з бліжэйшых паплечнікаў Івана IV Грознага не падзяляў погляды самадзержца на неабмежаваную ролю цара ў дзяржаве і, баючыся расправы за апазіцыю, у красавіку 1564 года ўцёк ў ВКЛ. Афіцыйныя ўлады планавалі выкарыстаць Курбскага ў барацьбе супраць рускай агрэсіі, добра прывецілі перабежчыка і надзялілі землямі, у тым ліку і Крэўскім княствам. У 1576 годзе Курбскі ўзначаліў вялікі атрад у складзе Стэфана Баторыя і змагаўся супраць маскоўскіх палкоў пад Полацкам. Але, як вядома, ніколі і нідзе людзі ў душы не паважалі здраднікаў. Знешне Курбскі пачытаўся польскай знаццю, яму аказвалі знакі ўвагі, хвалілі за храбрасць і ваеннае майстэрства, але, як чалавек разумны, ён не мог не адчуваць, што яго ненавідзелі. І як часта бывае ў такіх выпадках, гэты трагізм асобы адбіваўся жорсткасцю на сялянах яго беларускіх уладанняў, якія адважыліся адкрыта паскардзіцца на свайго пана, і Курбскаму прыйшлося нават заплаціць штраф за сваю суровасць. Чым не прававое на той час княства (!), у якім побач з крывавымі ратнымі справамі ладзілася і цывільнае жыццё?

На працягу XVII-XVIII стагоддзяў двор у Крэве належаў Нарушэвічам – дзяржаўным дзеячам ВКЛ, з роду якіх выйшлі Казімір Адам – у 1769 годзе рэктар Віленскай акадэміі Адам Тадэвуш Станіслаў – паэт, гісторык, набліжаная да караля Польшчы Станіслава Аўгуста Панятоўскага асоба і заснавальнік "школы Нарушэвіча" ў гісторыяграфіі, якая выступала за моцную манархічную ўладу, і інш. Належала Крэва Францкевічам Марсанам, Слізням, Важынскім, а з 1795 года – пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай – адышло ў склад Расійскай імперыі. Аб бойкім гандлёва-вытворчым жыцці мястэчка сведчыць наданне яму Магдэбургскага права (акрамя Крэва ў рэгіёне такую ганаровую прывілею мелі толькі Радашкавічы, Ашмяны і Мядзел). Ужо з XIV стагоддзя Крэва стала вядома сваім керамічным промыслам, а ў XIX – першай палове XX стагоддзя славілася як адзін з буйнейшых на Захадзе Беларусі цэнтраў керамічнай вытворчасці. Вылепленыя вырабы дапрацоўваліся на ручным ганчарным крузе, а потым іх з мастацкім густам глазуравалі, што надавала прыгажосць і каштоўнасць. Калекцыя такога посуду знаходзіцца ў музеі старажытнабеларускай культуры інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

У 1897 годзе ў Крэве былі 1380 жыхароў і 217 двароў; дзве царквы, адна з якіх — царква Аляксандра Неўскага – помнік архітэктуры 1854 года; сінагога, вучылішча, школа, там штогод праводзілася 5 кірмашоў.

Між тым гісторыя Крэва – гэта нагляднае ўвасабленне адмоўных тэндэнцый заняпаду: ад сталіцы княства да звычайнай вёскі ў Смаргонскім раёне і цэнтра калгаса. Падкасілі яго развіццё варожыя нашэсці і дзяржаўныя падзелы. Смяротны ўдар па крэўскім замку нанесла першая сусветная вайна, напамінам аб якой засталася брацкая магіла загінуўшых падчас яе воінаў рускай арміі. Зведала насельніцтва Крэва "тыя" і новыя Саветы і 30-гадовае (да верасня 1939 года) панаванне буржуазнай Польшчы, калі далёка не ўсе "кілбасамі дзверы звязвалі" і "блін маслам з двух бакоў мазалі". Незагойныя раны на целе пакінулі нямецка-фашысцкія захопнікі, на барацьбу з якімі падняліся народныя мсціўцы. Магіла аднаго з дзеячаў партызанскага руху і падполля А.А.Камінскага з вёскі Вывукі Смаргонскага раёна ў 1966 годзе адзначана абеліскам і яго імя ўвекавечана ў назве Крэўскай сярэдняй школы. У 1967 годзе ў вёсцы пастаўлены помнік і 46 землякам, якія загінулі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Аб гучнай і нялёгкай мінуўшчыне Крэва маўкліва напамінаюць сёння помнікі рэспубліканскага значэння: гарадзішча XVI-XVII стагоддзяў каля дарогі на Смаргонь, пры абследаванні якога ў канцы XIX стагоддзя і ў 1974 годзе знойдзена кераміка XVI-XVII стагоддзяў, і пасівелыя ад часу руіны замка.

Але не хочацца заканчваць на сумнай ноце, тым больш, што замільгаў нейкі праменьчык святла ў канцы тунэля. У 1998 годзе створаны міжнародны фонд "Крэва" з мэтай садзеяння захаванню і адраджэнню крэўскага замка. З надзеяй і ў добры час!

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

■ З НАРОДНАГА

# Свая хатка, як родная матка

**Дурная тая птушка, якая свайго гнязда не мае, казалі нашы продкі і, будуючы жытло, выконвалі запаветы яшчэ сваіх дзядоў і прадзедаў.**

Хата была і ёсць для чалавека тым месцам, дзе ён праводзіць усё сваё жыццё, калыскай, у якой нараджаецца і расце не адно пакаленне сям'і. І таму з даўніх часоў чалавек надаваў будаўніцтву вельмі важнае значэнне. Пад увагу бралася ўсё – і месца, дзе будзе стаяць хата, і як і калі яе пачынаць будаваць.

Перш за ўсё рыхтавалі лес. Пачынаючы секчы дрэва, глядзелі, як упадзе кара на зямлю. Калі валілася да верху шурпатым, а не белым бокам, не ссякалі. Не бралі на будаўніцтва таксама сухіх дрэў (можа вымерці ўся сям'я), з дуплом унутры ( будзе беднасць у хаце) і дрэў, якія гарэлі ад маланкі (каб пярун не спаліў падвор'е).

Па каляндарным часе будаўніцтва пачыналі толькі пасля Благавешчання. Каб выбраць месца, гадалі на дубовай кары, а таксама хлебе. Кідалі з-за пазухі тры невялічкія боханы хлеба і глядзелі, як яны ўпадуць на зямлю: калі хлеб ляжа верхам да неба – будаўніцтва пачыналі, а калі да зямлі – вызначалі новае месца.

З часоў сівой даўніны людзі верылі, што ў кожнай хаце жыве дамавы – дух далёкага продка, роданачальніка, які спрые і дапамагае ў справе сям'і і роду. Таму, пачынаючы будаўніцтва, дамавому прыносілі ахвяру: адсякалі пеўню ці курыцы галаву і закопвалі яе пад вугал будучай хаты. Падобную ахвяру рабілі і хлеўніку – Духу-ахоўніку дамашняй жывёлы, закопваючы пад вугал хлява косці жывёлы ці пучок валасоў з каровінага або конскага хваста.

Верылі таксама і ў тое, што ў час будаўніцтва хаты мясцовыя вядзьмакі маглі закласці каго-небудзь з членаў сям'і ў ахвяру злым духам, што азначала ў хуткім часе смерць у доме. Таму ў нашых продкаў быў звычай: па заканчэнні будаўніцтва не спяшацца з перасяленнем, ва ўсякім разе на працягу першых шасці дзён. На гэты час пасялялі там дамашніх жывёлу і птушку. Рэліктыгэтага звычая вядомы і сёння, амаль што ўсюды, перш чым увайсці ў новы будынак, наперад упускаюць у хату пеўня альбо ката.

Перасяляліся ў пабудаваную хату звычайна перад поўняй. Па некаторых звестках, у старажытнасці гэта рабілі ў поўнач, альбо залазілі першы раз у хату праз акно, адкуль і паходзіць назва – улазіны. У дзень перасялення ў хату запрашалі святара, які асвячаў яе і чытаў малебен на ўсяленне. Уваходзілі туды з радавым абразом, звычайна тым, што падарылі бацькі маладой на вяселле, ці, калі ўся сям'я пераязджала ў новую хату, забіралі абразы са старога месца жыхарства. Уносіла яго і вешала на покуце жанчына.

Звычайна на першым тыдні, а ў сённяшні час і значна пазней, да гаспадароў прыходзілі госці, каб павіншаваць іх з наваселлем. Застолле праходзіла, як усякая вечарынка, з песнямі, танцамі, жартамі і добрымі зычэннямі ў адрас навасёлаў.

**Падрыхтавала Марына СЛІЖ.**

■ ФУТБОЛ, АНАЛІЗ

# Дзе новыя таленты?

**Бягучы футбольны сезон у рэгіёне адметны тым, што ў "Смаргоні" практычна няма (за выключэннем запаснога Уладзіслава Дуксы) мясцовых выхаванцаў. У "Маладзечне-2000" у першым крузе іх таксама было мала (Віталь Макрыцкі, Сяргей Дараховіч, Аляксандр Альховік, Сяргей Дрозд, Андрэй Лявончык і ў глыбокім запасе Дзяніс Мятліцкі).**

Праўда, у другім крузе, страціўшы ледзь ці не ўвесь склад (у тым ліку пайшоўшага на павышэнне Макрыцкага), клуб дазаявіў Дзмітрыя Вышынскага, Паўла Пятроўскага, Мікалая Татуна і Антона Савіцкага.

Нельга стопрацэнтна казаць, што прыезджыя трэнеры спецыяльна "заціскалі" нашых хлопцаў. Проста тыя задачы, якія ставіліся перад абедзвюма камандамі напачатку сезона (быць паблізу ад тройкі прызёраў), патрабавалі выканаўцаў больш высокага гатунку.

Іншая справа, што ў выпадку са "Смаргонню" буйныя бюджэтныя грошы не надта дапамагаюць брыгадзе "варагаў" спрацаваць належным чынам. Што ж тычыцца "Маладзечна-2000", то тут наогул былым кіраўніцтвам клуба ўжываўся звычайны падман пры маляванні светлай будучыні.



Аляксандр Альховік (нумар 8) відавочна прыбавіў у сваім майстэрстве за апошні год.
Фота з сайта www.fcmolodechno2000.com.

Ніякай размовы аб рабоце на перспектыву не вялося. І юнакам заставалася толькі сядзець на трыбуне і глядзець як гуляюць заезджыя.

Ёсць адваротны пункт гледжання. Кажуць, што парніковых умоў для росту майстэрства патрабуюць не надта адораныя гульцы. Пасапраўднаму ж таленавіты той хлопец, які праяўляе сябе ў любых умовах. Ну і дзе ж яны, гэтыя нашы новыя таленты ўзроўню, прынамсі, Уладзіміра Карыцькі ці Алега Попеля, не кажучы ўжо пра Уладзіміра і Міхаіла Макоўскіх?

Зраблю тут невялікае адступленне, каб паразважаць аб лёсе братоў, якія страцілі сябе ва ўкраінскім футболе. Зараз Валодзя ўжо выходзіць у асноўным складзе (Міхаіл пакуль не) мінскага "Дынама" пад кіраўніцтвам Анатоля Байдачнага, якое разам і пакідалі пасля чэмпіёнства-1997. Выклікаваны ён новаспечаным трэнерам і ў нацыянальную зборную. У пасталелых блізнятаў з'явіўся шанс вярнуцца на арбіту вялікага футбола. Пажадаем ім выкарыстаць гэту магчымасць.

А цяпер наконт новых талентаў. Калі ласка...Маладзечанцы Сяргей Цвяцінскі (гуляе за "Дынама-Юні", першая ліга, 1985 г.н., з'ехаў у 2000-ым годзе), Ягор Дзмітрачкоў (дубль мінскага "Дынама", 1985, 2001), Мікалай Асіповіч (МТЗ-РІПА, першая ліга, 1986, 2002), Дзяніс Ганчароў (РВАР, другая ліга, 1987, 2002), смаргонцы Леанід Ковель (РВАР, 1986, 2001), Вадзім Дыро (РВАР, 1986, 2001), Вячаслаў Замара (РВАР, 1988, 2003).

Ад'езд у сталіцу на ўласны хлеб да больш дасведчаных трэнераў, у больш спрыяльныя ўмовы для падрыхтоўкі, дзе ёсць магчымасць набыць якасную школьную і пасляшкольную адукацыю безадрыўна ад футбола, – справа нядрэнная. Аднак, на жаль, працэс стаў хранічным. Наўрад ці ўсе гэтыя хлопцы вырастуць да ўзроўню юнацкіх (і далей маладзёжная і нацыянальная) зборных краіны.

І як складзецца іх лёс? Ці вернуцца дадому, ці ўзмацняць каманды рэгіёну, калі звяжуць усе сваё жыццё з футболам, але не змогуць замацавацца на рэспубліканскім узроўні?

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Нападзенне – добра, абарона – дрэнна

**17 жніўня. 2500 гледачоў. Суддзя Пырэеў. Смаргонь – Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) 2:2 (0:1).**

Галы: Кухлей (67), Курак (81); Лужанкоў (40), Кірык (84). Склад: 16.Шляхавой – 4.Курак, 2.Сінічын, 3.Судзін (14.Давідовіч,70), 19.Трындзюк – 7.Кухлей, 10.Карасёў, 9.Грабаздзін (18.Мяць,63), 6.Тарасаў – 8.Гірко (15.Шырабокаў,63), 11.Валовік.

Атакуючыя дзеянні гаспадароў балельшчыкам спадабаліся, але ў абароне каманда зноў дапускала памылкі. У выніку аказаліся страчанымі важныя ачкі. І гэта, напрыклад, пры суадносінах вуглавых 8:0 на карысць смаргонцаў.

Прапусцілі абодва галы пасля ўдараў галавой: абаронцы прайгравалі пазіцыю, а Шляхавой наогул практычна не прымаў удзел у эпізодах.

Зраўнялі лік даволі адмыслова. Тарасаў выканаў навес у штрафную, Кухлей прабіў галавой, і мяч па высокай траекторыі заляцеў пад перакладзіну, чаго не чакалі нават балельшчыкі.

А другі гол – заслуга Курака. Ён "шандарахнуў" па мячы з-за межаў штрафной дакладна ў далёкі ніжні кут.

**17.08. Граніт – Ліда 0:2, Ведрыч-97 – Хімік 1:0, ЗЛіН – Бяроза 0:0.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | МТЗ-РІПА | 41 |
| 2. | Лакаматыў (В) | 39 |
| 3. | ЗЛіН | 34 |
| 4. | Ведрыч-97 | 33 |
| 5. | Граніт | 33 |
| 6. | Смаргонь | 31 |
| 7. | Ліда | 29 |
| 8. | Хімік | 28 |
| 9. | Камунальнік | 26 |
| 10. | Днепр-ДЮСШ-1 | 22 |
| 11. | Тарпеда-Кадзіна | 22 |

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

## Прыязджалі Макоўскія з Бабушкай

**17 жніўня. 2000 гледачоў. Суддзя Язевіч. Маладзечна-2000 – Дынама (Мінск) 0:2 (0:1).**

Галы: Баба Адаму (40), Карніленка (49). Склад: 1.Сцепановіч – 2.Пятроўскі, 4.Крывіцкі, 5.Афанасевіч, 3.Дрозд – 6.Лявончык (12.Кадол,64), 8.Альховік, 10.Вышынскі (13.Хамутоўскі,51), 9.Дараховіч, 7.Якімчук – 11.Урублеўскі (14.Мятліцкі,78).

Справаздачны матч праходзіў у нядзелю, а перад гэтым у чацвер дынамаўцы гулялі на Кубак УЕФА ў Даніі (саступілі "Брондбю" 0:3), а потым у аўторак і сераду большасць гульцоў каманды павінна была прыняць удзел у сустрэчах маладзёжнай і нацыянальнай зборнай. Не дзіва, што мінчане імкнуліся з'эканоміць сілы, рухаліся па полі ў Маладзечне ледзь не пешшу, разлічваючы на перамогу "малой крывёю". Так і атрымалася. А яшчэ пасля гульні яны вельмі скардзіліся на стан газона, кажучы, што тут немагчыма наладзіць камбінацыйную, тэхнічную гульню.

У адной з рэдкіх хуткіх атак Баба Адаму ў цэнтральнай зоне згуляў у сценку з Карніленкам, выйшаў сам-насам са Сцепановічам і перакінуў над ім мяч у вароты (0:1). Пасля штрафнога ўдару з левага флангу Карніленка прабіў галавою, але Сцепановіч дацягнуўся да мяча, адбіўшы яго перад сабой. Аднак нападаючы спрацаваў на дабіванні (0:2).

Ля варот гасцей невялікае напружанне ўзнікала напачатку гульні, калі ў маладзечанцаў былі сілы хутка бегчы наперад, а супернікі не надта жадалі напружвацца. Запомніўся удар са штрафнога ў выкананні Вышынскага – мяч крыху размінуўся з правай (далёкай) дзевяткай.

Госці, зразумела, пагражалі куды часцей (па статыстыцы "Прэсбола" 28 удараў супраць 4; з іх прама ў вароты 9 супраць 1; вуглавых 12 супраць 1). Так у першым тайме Пятроўскі вымушаны быў галавою выбіць мяч з лініі варот, а Сцепановіч перамог у рандэву з Карніленкам. Віталь выратоўваў каманду і ў другім тайме: парыраваў удары Д.Калачова і Валадзянкова, шмат разоў даставаў "парашуты" ад Баба Адаму. Гэты цёмнаскуры форвард па мянушцы Бабушка вельмі пластычны, у яго гульнявой манеры прысутнічае жаданне згуляць на публіку: атрымліваючы мяч паблізу ад варот, б'е адразу ж, як складана не было б выкруціць сваё цела.

Праз шэсць гадоў зноў пабачылі на полі балельшчыкі братоў Макоўскіх. Уладзімір дзейнічаў пад нападаючымі, быў заменены пасля перапынку, Міхаіл выйшаў на замену пад занавес матча, таксама размясціўся ў цэнтры. Мілеўскі ж даўно не гуляе, залечвае атрыманую ў маі траўму.

**13.08. Лакаматыў – Шахцёр 1:2. 16-17.08. Славія – Нафтан 2:3, Дынама (Б) – Зорка-ВА-БДУ 0:1, Нёман – Лакаматыў 2:0.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Гомель | 40 |
| 2. | Дынама (М) | 38 |
| 3. | Тарпеда-СКА | 38 |
| 4. | Шахцёр | 34 |
| 5. | БАТЭ | 30 |
| 6. | Тарпеда (Ж) | 27 |
| 7. | Нафтан | 21 |
| 8. | Нёман | 21 |
| 9. | Днепр-Трансмаш | 21 |
| 10. | Дарыда | 18 |
| 11. | Дынама (Б) | 17 |
| 12. | Зорка-ВА-БДУ | 15 |
| 13. | Белшына | 15 |
| 14. | Лакаматыў (М) | 13 |
| 15. | Славія | 13 |
| 16. | Маладзечна-2000 | 11 |

Бамбардзіры: Бяганскі (БАТЭ) – 11; Мархель ("Тарпеда" Ж) – 10.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ГАРАДКІ

## Будзе матч за золата

**МАЛАДЗЕЧНА. Падыходзіць да завяршэння другі круг клубнага чэмпіянату. У параўнанні з першым кругам становішча каманд у табліцах амаль не змянілася.**

1 ліга. 27 ліпеня. Мінск. Аўтасіб – СКА 3:0, МЭС – Нёман 3,5:0,5, Нёман – СКА 3:0, МЭС – Аўтасіб 3:0. Салігорск. Шахцёр – Кэмпі 0:3. 10 жніўня. Мінск. Кэмпі – Аўтасіб 3:0, Кэмпі – Нёман 3:1. Краснае. МЭС – СКА 3:1.

Прадстаўнікі "Кэмпі" зноў перамаглі (на звычайным высокім узроўні згулялі Данілаў і Яршэвіч, а лідэрам каманды нечакана сябе праявіў Карповіч) і "Аўтасіб" (ужо вядома, што будзе ў выніку трэцім), і "Нёман", захаваўшы адно ачко адставання ад МЭСа. Ім яшчэ прадстаіць асабістая сустрэча, якая і вырашыць лёс сёлетніх узнагарод.

2 ліга. 27 ліпеня. Маладзечна. Маладзечнамэбля – Юнацтва 3:0, Маладзечнамэбля – Нёман-2 3:1, Юнацтва – Камунальнік 3,5:0,5. 3 жніўня. Бярозаўка. Нёман-2 – Юнацтва 2,5:2,5. 10 жніўня. Маладзечна. Юнацтва – МАЗ 3:0, Маладзечнамэбля – Камунальнік 0:3 (няяўка), Юнацтва – Асіповічы 3:1.

Мэбельшчыкі не сабралі склад на матч з жодзінцамі, але гэта не павінна перашкодзіць ім абагнаць па выніках чэмпіянату бярозаўскіх дублёраў. "Юнацтва" фінішуе на трэцім радку.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ ФУТБОЛ, ВЫНІКІ

**16 жніўня. Маладзечна-2000 (дубль) – Дынама (Мінск, дубль) 0:4.**

У гэтым матчы двойчы вызначыўся Міхаіл Макоўскі.

**17 жніўня. Забудова – Спартак-ВАР (Шклоў) 2:5.**

Развіццё падзей: (10), (20), (50), (55), (65) – 0:5; Вяжэвіч (75-пен), Смірноў (85) – 2:5.

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

**Па словах Пятра Кухальскага, які выконвае абавязкі дырэктара "Маладзечна-2000", для яго стала нечаканасцю патрабаванне віцебскага "Лакаматыва" заплаціць за Косака і Пазняка суму, прыкладна роўную пяці тысячам долараў.**

Аказваецца, гарантыйнае пісьмо на гэты конт зімою падпісаў тагачасны дырэктар Алег Французаў. Так што гэтыя футбалісты зараз выступаюць за МТЗ-РІПА, папярэдне "патрэніраваўшыся" ў "Маладзечна-2000", якое яшчэ і плаціць за іх павінна.

Клуб дазаявіў нападаючых Сяргея Кадола (1981) з "Дарыды" (2 матчы ў вышэйшай лізе) і Юрыя Хамутоўскага (1983) з "Дынама-Юні" (першая ліга). У дубль дазаяўлены абаронцы мясцовы выхаванец Вадзім Гаспаровіч (1986) і Андрэй Цай (1982) з Мінска, які летась правёў 18 матчаў ў "Забудове".

Дарэчы, чысцінцы папоўнілі склад паўабаронцам Міхаілам Сіўчыкам (1985) з Мінска. А Ігар Кіркіж і Дзмітрый Янель ужо рыхтуюцца да міні-футбольнага сезона. Іх, кандыдатаў у зборную Беларусі, запрасіла ўкраінская "Энергія" з Львова.

■ БАСКЕТБОЛ

**СМАРГОНЬ. Юныя беларускія баскетбалісткі (1986-88 г.н.) выканалі апошнюю з трох задач беспрэцэдэнтнага па гульнявому напружанню лета-2003. Яны ўвайшлі ў тройку прызёраў кваліфікацыйнага турніру да чэмпіянату Еўропы. Наступныя адказныя міжнародныя баталіі (паўфінальны турнір) чакаюць дзяўчат у будучым красавіку.**

Нашы суайчынніцы ў Балгарыі перамаглі румынак 77:53 (Юлія Дурэйка набрала 8 ачкоў, Алена Рынкевіч – 6), славенак 64:61 (Дурэйка – 9, Рынкевіч – 0), саступілі расіянкам 66:88 (Дурэйка – 15 – лепшая ў складзе, Рынкевіч – 2) і гаспадыням 67:77 (Дурэйка – 7, Рынкевіч не выходзіла).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНОНС

**23 жніўня. Белшына (Бабруйск) – Маладзечна-2000.**
+4=5-9 24-26. У першым крузе 1:0 (М.Альхавік) дома.

**24 жніўня. 17-00. Смаргонь – МТЗ-РІПА (Мінск).**
+1=0-0 2-1. У першым крузе 2:1 (Шырабокаў, Карасёў).

**24 жніўня. Баранавічы – Забудова.**
+0=1-4 4-16. У першым крузе 0:3 дома.
1 месца, 42 ачкі – 7-9 месцы, 19 ачкоў.

